УДК 087.5 : 908(476)
ББК 26.89(4Беи)
Д43

Тэкст, укладанне **Паліны Грынчанкі**

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе
і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Аўтар шчыра дзякуе за дапамогу ў складанні кнігі
супрацоўнікам НПЦ НАН Беларусі па біярэсурсах
Наталлі Карлiонавай, Паўлу Велігураву, Вользе Гапіенцы,
Аляксандру Дзерункову, Кацярыне Майсейчык,
Віктару Рызеўскаму, а таксама гісторыку і музыку Ярашу Малішэўскаму.

**ISBN 978-985-02-1757-8**

# Звяры


ВОЖЫК

## Твой слоўнічак

*Заалогія* (ад грэч. «заа» – «жывёла» і «логас» – «слова») – навука пра жывёл.

*Запаведнік* – тэрыторыя, дзе ахоўваюцца рэдкія віды жывёл, птушак, раслін, а паляванне і высечка дрэў забароненыя.


ЯНОТАПАДОБНЫ САБАКА

**Беларускі лес** – дзівоснае княства звяроў і птушак, насякомых і раслін. Паколькі ў Беларусі вельмі шмат лясоў, то часта зусім побач з намі жывуць самыя розныя дзікія жывёлы. Некаторых так мала, што сустрэць іх у прыродзе – вялікая ўдача. Людзі пачалі ахоўваць рэдкіх жывёл, каб яны не зніклі назаўсёды.


ЗУБР


ГАРНАСТАЙ



ЛОСЬ



БАРСУК



ВОЎК

МЯДЗВЕДЗЬ



Ці ведаеш ты, што такое **Чырвоная кніга?** Пад яе вокладкай сабраны жывёлы і расліны, якім пагражае знікненне. Колер кнігі нібы заклікае: «Людзі, будзьце ўважлівымі да нас!» Самы вядомы звер Чырвонай кнігі – зубр, найвялікшая жывёла ў Еўропе. Калісьці яму пагражала знікненне, але цяпер ён узяты пад ахову. Статак узначальвае не самец зубра, а зубрыха-«князёўна». Нягледзячы на вялізную вагу (да 800 кг), звер можа пераскочыць агароджу вышынёй 2 метры!



ТХОР (ШАШОК)

У пачатку 20 стагоддзя ў Беларусі
было вельмі мала **баброў**.
Іх нават давялося ўзяць пад ахову.
Але апошнім часам баброў развялося
столькі, што яны пачалі шкодзіць.
Вядомыя нават выпадкі,
калі бабры нападалі на людзей.
І ўсё ж за імі вельмі цікава назіраць:
бабры будуюць хаткі над вадой,
а каб папярэдзіць суседзяў пра небяспеку,
ляпаюць па вадзе хвастом-вяслом.

ВАВЁРКА



РЫСЬ



ГРОДНА

МІНСК



МЫШ



ЗАЯЦ



БРЭСТ



ВЫДРА

У многіх краінах Еўропы **ваўкі** занесеныя ў Чырвоную кнігу. У Беларусі, наадварот, іх вельмі шмат, і месцамі іх зграі робяцца небяспечнымі. Як адрозніць важака зграі? У звычайных ваўкоў хвост апушчаны ці падціснуты, а павадыр трымае яго ўзнятым.

КАЖАН



ВІЦЕБСК





АЛЕНЬ

МАГІЛЁЎ







БАБЁР



ЛІСА



ГОМЕЛЬ



ДЗІК (ВЯПРУК)

Яшчэ адна цікавая жывёла беларускіх лясоў падобная да… птушкі. Гэта **кажан** – звер, які корміць дзіцянят малаком, а сам харчуецца насякомымі. Часам можна пачуць, што кажаны – вампіры і п’юць кроў сваіх ахвяраў. Насамрэч у Беларусі такіх няма: кажаны-вампіры жывуць толькі ў Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыцы.

# Птушкі



СІНІЦА ВЯЛІКАЯ

## Твой слоўнічак

*Арніталогія* (ад грэч. «орніс, орнітас» – «птушка» і «логас» – «слова») – навука пра птушак.

*Кальцаванне* – адзін са спосабаў вывучэння птушак. Пранумараваныя кольцы надзяваюць на лапкі злоўленых птушак, якіх потым адпускаюць.



ЖАВАРАНАК



ШПАК ЗВЫЧАЙНЫ



САВА БАЛОТНАЯ

Ці ведаеш ты, якая птушка ёсць сімвалам Беларусі? Вядома ж, **белы бусел**! У народзе кажуць, што бусел – адзіная птушка, якая мае душу, бо калісьці была чалавекам. З даўніх часоў буслы селяцца побач з людзьмі. Пары буслоў ніколі не распадаюцца і, вярнуўшыся, займаюць леташнія гнёзды. Новае гняздо птушкі могуць пабудаваць прыблізна за 8 дзён.

БЕЛЫ БУСЕЛ



ЯСТРАБ



Калі сканчаецца цёплае лета, птушкі рыхтуюцца да зімы.
Буслы, чаплі, гусі, дразды, ластаўкі ды іншыя адлятаюць у вырай, часта за шмат тысяч кіламетраў.
Гэтых птушак называюць **пералётнымі**.
Вераб'і, галубы, сарокі ўзімку і ўлетку жывуць на адным месцы і называюцца **аселымі**. А ёсць птушкі, якія ўвесь час пералятаюць у пошуках ежы (сінічкі, снегіры, попаўзні, амялушкі), – яны называюцца **вандроўнымі**.

ГЛУШЭЦ





Свет птушак дзівосны і разнастайны. Ім прысвечана свята – **Міжнародны дзень птушак**, які адзначаюць 1 красавіка. У гэты час пералётныя вандроўнікі вяртаюцца ў родныя мясціны.

СОЙКА

ЗІМАРОДАК





ДРОЗД ЧОРНЫ

МІНСК

ГРОДНА





ЛАСТАЎКА ВЯСКОВАЯ

Калі ты па ўзросце пакуль не можаш стаць сапраўдным навукоўцам-арнітолагам, для цябе знойдзецца важны занятак: назіраць за птушкамі, запісваць іхныя галасы, фатаграфаваць іх. Твая дапамога будзе каштоўнай!



ВЕРАБЕЙ ДАМАВЫ

БРЭСТ

ВАРОНА ШЭРАЯ





ЛЕБЕДЗЬ-ШЫПУН



ВІЦЕБСК



ДЗЯЦЕЛ СЯРЭДНІ



АМЯЛУШКА



МАГІЛЁЎ



КРУМКАЧ (ГРУГАН, КРУК)



САРОКА



ЗЯЗЮЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ



ГОМЕЛЬ

Такім чынам, **што трэба ведаць назіральніку:**



Знайдзі сяброў для назірання, вазьмі з сабой бінокль і сшытак. Запісвай, дзе, калі, колькі і якіх птушак бачыш.



Апранайся цёпла, бо лепшы час для назірання – прахалодная раніца і вечар.



Не пераследуй і не палохай птушак, не кранай знойдзеныя яйкі і птушанят.



Паводзься ціха. Калі фатаграфуеш – здымай без выбліску і не блізка ад гнязда.



# Насякомыя і павукі



СВЯТЛЯК

## Твой слоўнічак

*Энтамолаг* (ад грэч. «энтамас» – «насякомае» і «логас» – «слова») – навуковец, які вывучае насякомых.

*Арахнафобія* (ад грэч. «арахна» – «павук» і «фобас» – «страх») – моцная боязь павукоў.



КАЛАРАДСКІ ЖУК



КАМАР



ЖУК-АЛЕНЬ



КОНІК

**Насякомыя** – адны з першых жывых істот, якія з'явіліся на Зямлі. Яны перажылі дыназаўраў і вытрымалі некалькі сусветных прыродных катастроф. Цяпер у свеце гэтак шмат розных відаў насякомых, што энтамолагі ніяк не могуць усіх палічыць. Мяркуюць, існуе ад 2 да 8 мільёнаў відаў насякомых. Новыя віды адкрываюцца кожны год!


АСА


ДУБОВЫ ВУСАЧ


ПРЫГАЖУНЯ БЛІСКУЧАЯ

У Беларусі лятае, поўзае, скача, бзыкае і кусаецца каля 30 тысяч розных відаў кузурак. Некаторыя такія малыя, што іх цяжка разгледзець нават з лупай. Напрыклад, даўжыня **наезніка-яйкаеда** ўсяго чвэрць міліметра! А васьмісантыметровы **жук-алень**, самае вялікае насякомае ў нашых краях, сустракаецца рэдка, таму занесены ў Чырвоную кнігу.

БЛАКІТНІЦА ІКАР



МАХАОН




ЖАЎТУШКА

У насякомых няма ўнутранага шкілета, але ёсць знешні шкілет (панцыр) з трывалага рэчыва – хіціну. Кузуркі жывуць у свеце, поўным драпежнікаў, і абараняюцца хто як можа. Зялёныя конікі, тля, багамолы, карычневыя жучкі і клапы стараюцца быць непрыкметнымі і зліваюцца колерам з травой і зямлёй. Яркія паласатыя восы, чмялі, пчолы абараняюцца джалам. Багоўка, адчуўшы небяспеку, выпускае атрутнае рэчыва з непрыемным пахам.


БАГОЎКА


ЗАЛАТАВОЧКА

ВАДАМЕРКА



МІНСК

ГРОДНА




ПАВУК-КРЫЖАВІК

МУРАШКА



БРЭСТ


БАГАМОЛ

Часам людзі называюць **павукоў** насякомымі. Насамрэч гэта няслушна. Насякомыя і павукападобныя – два асобныя класы. Адрозніць іх проста: у насякомых тры пары ног і вусікі, а ў павукоў чатыры пары ног і няма вусікаў. І толькі павукі плятуць павуціну, каб злавіць ахвяру. У нашых азёрах жыве павук-серабранка, які пад вадой будуе дом з павуціны і паветраных бурбалак. Вялікі сплаўны павук, што сустракаецца каля вадаёмаў, занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі.


ХРУШЧ

ВІЦЕБСК


АДМІРАЛ


ДАЗОРЧЫК-УЛАДАР

МАГІЛЁЎ


СТРАКАЗА ПЕРАВЯЗАНАЯ


ПЧАЛА


ВЯЛІКІ СПЛАЎНЫ ПАВУК

ГОМЕЛЬ


ПАВУК-СЕРАБРАНКА


ЧМЕЛЬ

Таксама каля вады жывуць прыгожыя **стракозкі**. Яны лятаюць у розныя бакі – наперад, назад, убок, – прычым лятаюць хутчэй за ўсіх астатніх насякомых. Лічынкі стракоз – драпежнікі. Яны палююць на кузурак, апалонікаў і на малявак рыб, і за суткі адна лічынка можа знішчыць да паўсотні рыбак.

# Жыхары вадаёмаў




## Твой слоўнічак

*Іхтыялогія* (ад лац. «іхтыс» – «рыба» і «логас» – «слова») – раздзел навукі пра жывёл, які вывучае рыб і рыбападобных.

*Малюск* – бесхрыбетная жывёла, мяккае цела якой звычайна пакрытае ракавінай.







Пра Беларусь кажуць: «зямля з блакітнымі вачыма». Павер, гэта праўда: у нас каля дваццаці тысяч рэк і дзесяці тысяч азёр! А колькі цікавых істот жыве ў вадаёмах – і не пералічыць. Самыя маленькія рыбкі – **аўсянкі** і **колюшкі**, якія плаваюць серабрыстымі чародкамі. Самая вялікая рыба – драпежнік **сом** вагою да 200 кілаграмаў.









Самая незвычайная рыба ў Беларусі – **вугор** з доўгім, як у змяі, целам і пляскатай галавой. Калі ты паспрабуеш яго ўхапіць, наўрад ці ўтрымаеш у руках: цела вугра пакрытае тоўстым слоем склізі. Ён дужы, вёрткі і даволі цяжкі. Дарослая рыбіна важыць да 4 кілаграмаў і мае даўжыню да 2 метраў.

**Земнаводныя** – дзівосныя істоты, якія могуць жыць і на зямлі, і ў вадзе. Калі яны знаходзяцца пад вадой, то дыхаюць скурай, а калі на сушы – лёгкімі. З хвастатых земнаводных у нас жывуць два віды **трытонаў** – звычайны і грабеньчаты. Як і жабкі, трытоны адкладаюць ікру, але робяць гэта хітрым спосабам: кожную ікрынку самка загортвае ў лісток, каб не дасталася драпежнікам.


СЦЕРЛЯДЗЬ

ТРЫТОН ГРАБЕНЬЧАТЫ



СТРОНГА ВЯСЁЛКАВАЯ



МІНСК

ГРОДНА

ТРЫТОН ЗВЫЧАЙНЫ




ЁРШ (ДЖГІР)




БРЭСТ

ЖАМЧУЖНІЦА

БАЛАЦЯНІК

Бясхвостыя земнаводныя – гэта **жабы**, **рапухі**, **квакшы**, **жарлянкі**. Іхная скура выдзяляе склізь, якая не дае жывёле высахнуць. Кажуць, калі кранаць жабак, на руках з'явяцца барадаўкі. Гэта, вядома ж, страшылкі. Але пасля іх рукі лепей памыць: напрыклад, **зялёная рапуха** выдзяляе атрутныя рэчывы, якія могуць апячы вока ці рот.



На Палессі жывуць **балотныя чарапахі**. Іх вельмі мала, і яны надзвычай асцярожныя: пачуюць чалавека за 10 метраў – і ўцякаюць у ваду. Убачыць балотную чарапаху – вялікая ўдача. Але яшчэ большая ўдача назіраць, як чарапахі збіраюцца на сухім пясочку, выкопваюць ямінкі і адкладаюць яйкі.

УЮН



ВІЦЕБСК

КАРАСЬ СЯРЭБРАНЫ



МАГІЛЁЎ



БЫЧОК-ПЯСЧАНІК



РАПУХА ЗЯЛЁНАЯ



ГОМЕЛЬ

ЖАРЛЯНКА ЧЫРВАНАБРУХАЯ



ЧАРАПАХА БАЛОТНАЯ

# Фрасліны


ДУБ

## Твой слоўнічак

***Флора*** – сукупнасць усіх відаў раслін якой-небудзь мясцовасці.

***Гербарый*** (ад лац. «herbarius» – «травяны») – калекцыя засушаных раслін.

БРУСНІЦЫ



Жыццё планеты і чалавека немагчыма ўявіць без раслін. **Расліны** – нашая ежа, лекі, кісларод, вопратка, будаўнічыя матэрыялы. Ужываць у ежу можна прыблізна трэцюю частку раслін на планеце. Вывучэннем раслін займаецца навука **батаніка**.

СУНІЦЫ



ГАРЛАЧЫК БЕЛЫ






Навукоўцы падлічылі,
што за жыццё аднаго
чалавека на ягоныя патрэбы
сыходзіць каля 400 дрэваў.
Цэлы лес!
Эколагі хвалююцца:
штогод на планеце з-за змены
клімату і высечак становіцца
на 15 мільярдаў дрэваў менш.
Калі не прыняць меры,
нашчадкі ўжо не будуць
называць Зямлю
«зялёнай планетай»...

Самыя распаўсюджаныя **дрэвы** нашых лясоў – елка, хвоя, бяроза, алешына, дуб, ліпа.
Беларускі лес багаты на вітаміны: чарніцы, суніцы, маліны, журавіны...
Кусты чарніц і брусніцы растуць у светлых хваёвых лясах, журавіны любяць мох і балоцістыя мясціны.
Абірай на свой густ!
І абавязкова частуй замежных сяброў смачным і карысным беларускім ласункам – журавінамі ў цукры.

БЭЗ





МІНСК

ГРОДНА

РАМОНАК

ВАЛОШКА (ВАСІЛЁК)





СОН РАСКРЫТЫ

БРЭСТ

ДЗЬМУХАВЕЦ

КАНЮШЫНА



ВІЦЕБСК



Ты, напэўна, хочаш ведаць,
якія кветкі ў нас «самыя-самыя»?
Самымі першымі з-пад снегу
паказваюцца **пралеска** і **сон-трава**.
А самая вялікая і прыгожая кветка
ў нашых краях – **белы гарлачык**,
названы ў народзе «русалчынай кветкай»,
які расце ў азёрах і ціхіх рэчках.
Усе гэтыя кветкі занесеныя
ў Чырвоную кнігу.



ПРАЛЕСКА

МАГІЛЁЎ



ЧАБОР



ЛАНДЫШ

ГОМЕЛЬ





ПАПАРАЦЬ

Калі хочаш болей даведацца
пра флору нашай краіны,
ласкава просім у мінскі
**Цэнтральны батанічны сад**!
Ты ўбачыш там расліны
з усёй Беларусі і з іншых куткоў
свету, багатыя кветнікі, возера
з лебедзямі, маляўнічыя палянкі
ды зараснікі, аранжарэю
з экзатычнымі раслінамі.

# Грыбы



БАРАВІК ЗВЫЧАЙНЫ

## Твой слоўнічак

*Грыбовішча* – мясціна ў лесе, дзе кожны год грыбы вырастаюць цэлымі сем'ямі.

*Грыбы-паразіты* – грыбы, якія растуць на жывых дрэвах, кустах: апенька восеньская, дрэўнавушкі, махавік паразітны.

**Грыбы** – гэта і не расліны, і не жывёлы, а асобнае царства жывой прыроды. Яны жывуць не толькі ў зямлі, але паўсюль, дзе толькі знаходзяць неабходныя пажыўныя рэчывы. Дрожджы, цвіль (плесня), паразіты на раслінах і жывёлах – усё гэта таксама грыбы.



ГРУЗД (МАЛАЧАЙ) ЧОРНЫ



СМАРЖОК ЗВЫЧАЙНЫ



МАХАВІК ЖОЎТА-РУДЫ



СЫРАЕЖКА



ВАЎНЯНКА



ЛІСІЧКА ЗВЫЧАЙНАЯ

Галоўная частка грыба – зусім не ножка ці шапачка, а **грыбніца**, або **міцэлій**, – спляценне тонкіх нітачак-карэньчыкаў. Грыбніца жыве вельмі доўга, у зямлі яна пераносіць холад, засуху, расце, перамяшчаецца з месца на месца ў пошуках пажыўных рэчываў, размнажаецца. А сам грыб (пладовае цела) вырастае з яе толькі на кароткі час.

МАСЛЯК ЗВЫЧАЙНЫ





ЗОРКА ЗЕМЛЯНАЯ

Грыбы адыгрываюць
важную **ролю ў прыродзе**:
перапрацоўваюць апалае лісце,
ігліцу, шышкі, галінкі
і такім чынам ажыўляюць глебу.
Таму не стаўся з пагардай да паганак
ды іншых неядомых грыбоў:
яны працуюць прыроднымі санітарамі,
а таксама з'яўляюцца лекамі
для жывёл.


АБАБАК ЗВЫЧАЙНЫ


ВУШКА ЗАЕЧАЕ

МІНСК

ГРОДНА


РЫЖЫК

ГНАЯВІК БЕЛЫ ЧУБАТЫ




СПАРАСІС КУЧАРАВЫ


ПАРХАВІК ПЕРЛАВЫ

БРЭСТ


ВАЛУЙ

ВІЦЕБСК




ГАЛАВАЧ ВЯЛІЗНЫ


ТРУФЕЛЬ

МАГІЛЁЎ


АПЕНЬКА ВОСЕНЬСКАЯ


МУХАМОР ЧЫРВОНЫ


СМЯРДЗЮХ ЗВЫЧАЙНЫ

Самае складанае для чалавека – адрозніць добрыя грыбы ад іх неядомых (а часам атрутных) «двайнікоў». Даволі падобна выглядаюць баравік і жоўцевы грыб, звычайныя і несапраўдныя апенькі і лісічкі. Памятай, што грыбы не маюць ніякіх выразных прыкмет атрутнасці (у іх можа не быць дрэннага паху ці смаку), таму падчас збору грыбоў правіла адно: **не ўпэўнены – не бяры**.



## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

 Дробны дождж пайшоў – і грыбы пойдуць.

 Калі ўлетку доўга родзяць грыбы, то будзе доўгая восень і позняя зіма.

 Дзе дубы, там і грыбы.

 Дзе мухаморы, там і баравікі.

 Адзін грыб не расце: убачыў грыба, то шукай другога.

# Народная культура




## Твой слоўнічак

***Фальклор*** (ад стараангл. «folklore» – народная мудрасць) – вусная народная творчасць: казкі, песні, паданні, легенды, прыказкі.

***Выцінанка*** – узор, выразаны з паперы, дзе малюнак разыходзіцца ад цэнтра. «Сняжынкі» на вокны, якія ты выразаеш пад Новы год, – гэта таксама выцінанкі.




Беларусы могуць ганарыцца: нашая мова – адна з самых мілагучных у свеце. Беларускі народ таленавіты на казкі, песні ды музыку. Паглядзі, якія цікавыя народныя **музычныя інструменты** мы маем: жалейка, цымбалы, ліра, дуда… А якія яшчэ беларускія інструменты ты ведаеш?















ДУДА

КАЛЯДОЎНІКІ

СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ



Калі цябе спытаюць,
які беларускі інструмент
самы незвычайны,
смела кажы: «Дуда!»
**Музыкі-дудары** гралі
на Каляды і Вялікдзень,
на хрэсьбінах і вяселлях.
Кажуць, яны былі амаль
чараўнікамі: сваёй музыкай
маглі выклікаць дождж, сонца,
навальніцу. Але не думай,
што дуда так і засталася
ў даўняй гісторыі:
працуе дударскі клуб,
які ладзіць святы і дзе можна
навучыцца граць на чароўным
інструменце.

Беларусы здаўна любілі тэатр. Першы народны лялечны **тэатр-батлейка** з'явіўся каля 500 гадоў таму. Гэта была ўпрыгожаная драўляная скрынка ў выглядзе двухпавярховага дома. Артыст-батлеечнік знаходзіўся за скрынкай, вадзіў лялькі, прамаўляў тэкст.
На Каляды паказвалі п'есу пра нараджэнне Божага Сына, якая называлася «Цар Ірад».


ВЫЦІНАНКА


БРЫЛЬ


САЛАМЯНЫ ПАВУК

ГРОДНА

МІНСК


КУФАР

Раней у дзетак не было так шмат цацак, як у цябе сёння.
Нават лялькі ў іх былі не толькі цацкамі, але і **абярэгамі**: лічылася, што яны аберагалі сям'ю ад злых сіл, дапамагалі ў працы.
Іх рабілі з тканіны без іголкі і нажніц.
«Неразлучнікаў» дарылі маладым на вяселлі, каб яны заўсёды былі разам. «Дзесяціручку» – гаспадыні, каб усё паспявала.
«Траўніца» трымала лекавыя травы.
А рознакаляровых лялек-кувадак вешалі над калыскай дзіцяці.


ЛЯЛЬКА-АБЯРЭГ «НЕРАЗЛУЧНІКІ»

Цікавая рэч, якую ты не сустрэнеш у сучасных кватэрах, – гэта куфар, вялікая размаляваная скрыня, дзе захоўвалі розныя рэчы і ежу. Праз тое, што раней мэблі ў хатах было няшмат, куфар выконваў таксама ролю стала, ложка, лаўкі, шафы. Часам у ім рабілі схованкі, каб прыхаваць самае дарагое. Каштавалі такія куфры даволі шмат, прыблізна як карова ці конь.



ВІЦЕБСК



БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ



МАГІЛЁЎ



САЛАМЯНАЯ ЦАЦКА



БАТЛЕЙКА

ВЫШЫВАНКА



ГОМЕЛЬ



КОШЫК З ЛАЗЫ



РУЧНІКІ



# Архітэктурныя і гістарычныя славутасці


КАСЦЁЛ СВ. СЫМОНА І АЛЕНЫ, МІНСК

## Твой слоўнічак

*Фасад* – выгляд будынка з вуліцы: уваходныя дзверы, лесвіца, вокны, дах.

*Інтэр'ер* – выгляд будынка знутры: падлога, сцены, столь і ўсе рэчы, якія ўпрыгожваюць дом.

**Архітэктура** – гэта будаўнічае мастацтва, здольнасць узводзіць будынкі. Архітэктар у перакладзе са старажытнагрэчаскай мовы азначае «старэйшы будаўнік». Па-беларуску мы скажам «дойлід». Ён адказвае за тое, каб прыдуманы ім будынак быў трывалым, прыгожым і зручным для людзей.


СЛУЦКАЯ БРАМА, НЯСВІЖ (Мінская вобл.)


ПАЛАЦ ПУСЛОЎСКІХ, КОСАВА (Брэсцкая вобл.)

ФАРНЫ КАСЦЁЛ
СВ. ФРАНЦІШКА
КСАВЕРЫЯ,
ГРОДНА



ЦАРКВА
УСПЕННЯ
ПРАСВЯТОЙ
БОЖАЙ МАЦІ,
САР'Я
(Віцебская вобл.)



МАНАСТЫР РАСТВА
БАГАРОДЗІЦЫ,
ЮРАВІЧЫ
(Гомельская вобл.)



Паглядзі, якія моцныя і велічныя старыя замкі. Старажытныя дойліды клапаціліся, каб жыхары вытрымалі напады ворагаў. У **Мірскага замка**, да прыкладу, таўшчыня сцен каля падмурка дасягала трох метраў. Вежы вышынёй 25 метраў і вузкія вокны-байніцы спланаваныя так, каб было зручна весці агонь і адбівацца ад непрыяцеляў.



МІРСКІ ЗАМАК
(Гродзенская вобл.)

Праца дойліда – сапраўднае мастацтва. Вельмі добра адчуваеш гэта, калі глядзіш на храмы – месцы, куды людзі прыходзяць, каб быць бліжэй да Бога.

**Касцёл Святой Тройцы ў Гервятах** – сапраўдны архітэктурны цуд, адзін з найпрыгажэйшых у Беларусі. Званіца вышынёй 61 метр стварае адчуванне, нібы храм імкнецца ў неба.



КАСЦЁЛ СВ. ТРОЙЦЫ, ГЕРВЯТЫ
(Гродзенская вобл.)



АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ
(Гродзенская вобл.)



МІНСК

ПАЛАЦ РАДЗІВІЛАЎ, НЯСВІЖ
(Мінская вобл.)



БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ



ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ, МУРАВАНКА
(Гродзенская вобл.)

БРЭСТ



КАСЦЁЛ СВ. ТРОЙЦЫ, ІШКАЛДЗЬ
(Брэсцкая вобл.)



КАСЦЁЛ НАРАДЖЭННЯ НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ПАННЫ МАРЫІ, БРАСЛАЎ
(Віцебская вобл.)



ВІЦЕБСК

**Полацк** – наш самы старажытны горад. Упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 862 г. Калісьці ён быў сталіцай Полацкага княства – першай беларускай дзяржавы. Там знаходзіцца **Сафійскі сабор**, найстарэйшая мураваная пабудова на тэрыторыі Беларусі.



САФІЙСКІ САБОР, ПОЛАЦК
(Віцебская вобл.)



КУЦЕІНСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР, ОРША
(Віцебская вобл.)

МАГІЛЁЎ



СВЯТА-МІКОЛЬСКІ МАНАСТЫР, МАГІЛЁЎ

Ці ведаеш ты пра цікавы архітэктурны помнік – штучную водную дарогу? Гэта **Аўгустоўскі канал** даўжынёй каля 101 км (на тэрыторыі Беларусі – 22 км), які ў 19 стагоддзі злучыў дзве ракі – Нёман і Віслу. Яго выкарыстоўвалі для перавозкі тавараў. Цяпер Аўгустоўскі канал наведваюць турысты, гэта выдатнае месца для адпачынку.

ГОМЕЛЬ



ПАЛАЦ РУМЯНЦАВЫХ-ПАСКЕВІЧАЎ, ГОМЕЛЬ

# Сем загадак Беларусі

## Твой слоўнічак

***Балота*** – участак сушы з пастаяннай залішняй вільготнасцю.

***Ледавік*** – скопішча вялікай масы лёду, які рухаецца.

### КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Яго стварыў у 1161 г. майстар-ювелір Лазар Богша на замову полацкай асветніцы Еўфрасінні з роду князя Усяслава Чарадзея. Шасціканцовы крыж вышынёй 51,8 см быў зроблены з кіпарысу, аздоблены залатымі і срэбнымі пласцінамі, эмаллю, каштоўнымі камянямі. Меў надпісы на царкоўнаславянскай мове з уплывам старажытнабеларускай. Крыж знік падчас Другой сусветнай вайны і дагэтуль не знойдзены. Хутчэй за ўсё, яго вывезлі ў Расію, далей сляды губляюцца…



## БАЛОТА ЕЛЬНЯ

Знаходзіцца ў Віцебскай вобласці. Згадваецца ў кнізе рэкордаў Гінэса як найвялікшае верхавое балота свету. У цэнтры яно на 5 – 7 метраў вышэйшае, чым каля берагоў. Фактычна гэтае балота – пагорак, а ваду на ім утрымлівае тоўсты пласт торфу і моху сфагнуму. Легенда кажа, што на дне схаваны палац са скарбамі.




## МОРА ГЕРАДОТА

Сёння цяжка ўявіць, што тысячы гадоў таму на поўдні Беларусі было амаль сапраўднае мора. Яно пазначана на сярэднявечных мапах. Называлася тое мора Сармацкім (паводле назвы мясцовага насельніцтва) альбо Герадотавым (бо пра яго ўпершыню згадаў старажытнагрэчаскі гісторык Герадот каля 2500 гадоў таму). Хутчэй за ўсё, «мора» на Палессі (а насамрэч комплекс вялізных азёраў і балот) утварылася ў выніку раставання ледавіка.

## ЦМОК

Фантастычная істота з беларускіх казак і паданняў, пачварны змей ці нячысты дух, які шкодзіць людзям. Яго перамагае Юр'я. З іншага боку, беларускі Цмок часам праяўляецца як мудры персанаж і памочнік людзям. Але магчыма, Цмок – не такая ўжо і фантастычная істота: ёсць сведчанні, што ў 19 стагоддзі ў рэчках Няміга і Свіслач лавілі дзіўных жывёл, падобных да тоўстых яшчарак з цёмнай луской...
Ці не былі яны нашчадкамі таго самага Цмока з беларускіх паданняў?




МІНСК

## КУРГАНЫ

Старажытныя земляныя насыпы над магіламі вышынёй 1 – 2 м, дзе ў дахрысціянскія часы хавалі нябожчыкаў.
У магілу клалі розныя неабходныя рэчы, прылады працы, зброю, ежу. У народзе курганы называюцца таксама «валатоўкамі», «капцамі».
Паводле паданняў, у валатоўках пахаваныя асілкі-волаты.



ЗАЛАТЫ ПЯРСЦЁНАК

КУРГАН



БРЭСТ



ПОЯС ВІТАЎТА

МАНЕТНЫ СКАРБ



КУБАК



ЛІТОЎСКІ ТАЛЕР



## СКАРБЫ НАПАЛЕОНА

У 1812 г. французскі імператар Напалеон, заваяваўшы Еўропу, дайшоў да Расіі. Ягоныя войскі разрабавалі Маскву, але змушаны былі адступіць. Французы адыходзілі праз Беларусь. Кажуць, падчас складанай пераправы цераз раку Бярэзіна каля Барысава яны закапалі нарабаваныя скарбы – цэлую карэту золата і каштоўнасцей. Праўда, некаторыя навукоўцы называюць шмат іншых верагодных месцаў, дзе трэба шукаць тыя скарбы…



АДСТУПЛЕННЕ ФРАНЦУЗАЎ ЦЕРАЗ БЯРЭЗІНУ (Мастак Ж.В. Адам)

## ТУРАЎСКІЯ КРЫЖЫ

Каменныя крыжы 12 стагоддзя вышынёй 1 – 2 м, якія знаходзяцца ў Тураве і ваколіцах. Паводле паданняў, іх з’яўленне звязана з цудам: яны нібыта самі прыплылі з Кіева ўверх па рацэ Прыпяць. Адзін з крыжоў знаходзіцца на Барысаглебскіх могілках. Людзі вераць у ягоную цудоўную моц. Кажуць, ён з’явіўся з зямлі, як звычайны камень, потым паказаліся папярочныя «крылы», і цяпер штогод ён падрастае на пару сантыметраў.



ТУРАЎСКІ КРЫЖ

ГОМЕЛЬ



Навукова-папулярнае выданне

ДЗІЦЯЧЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ

Тэкст, укладанне *Паліны Грынчанкі*
Арыгінал-макет *Уладзіміра Жука*



Рэдактар *Э. В. Карбановіч*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Стылістычны рэдактар *Н. В. Філіповіч*

Падпісана да друку 10.10.2017. Фармат 60 x 90$^{1}/_{8}$. Папера афсетная.
Гарнітура PragmaticaC. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 5,0. Улік.-выд. арк. 4,84.
Тыраж 1500 экз. Заказ 1204.

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр. Пераможцаў, 11, 220004, Мінск. www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

РУП «БудМедыяПраект». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/42 ад 13.02.2014. Вул. В. Харужай, д. 13,
пак. 61, 220123, Мінск.





*Касцёл Св. Тройцы,*
*Гервяты*
*(Гродзенская вобл.)*

Дзіця ва ўзросце ад 2 да 10 гадоў задае каля 300 пытанняў на дзень. Хто жыве ў гэтай норцы? Якая самая вялікая кветка расце ў Беларусі? А жаба можа дыхаць пад вадой? Я хачу вывучаць жывёл, як будзе называцца мая прафесія? Што такое варган? Дзе ў Беларусі можна знайсці скарбы? На гэтыя і шмат іншых пытанняў дасць адказ унікальны «Дзіцячы атлас Беларусі». Неверагодныя факты і яркія ілюстрацыі, размешчаныя на старонках кнігі, зацікавяць не толькі малых чытачоў, але і дарослых.







